Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на паўг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 10 (19) | Вільня, 5-га верасьня 1937 г. | Год II.

## Парлямантарны дэмакратызм.

Трэба прызнаць, што дэмакрацыя зараз пасьля Вялікай вайны зрабіла аграмадны крок уперад. Яна паскідала (або агранічыла ў правох) манархаў, якім народныя масы прыпісвалі ўсе ваенныя няшчасьці; дала гэтым масам права роўнага голасу пры выбарах у парляманты; ўвяла ў выбары пяціпрыметную сыстэму, каб ніякая група насельніцтва ня была скрыўджана. Але па кароткім часе наступіў крызыс гэтакага шырокага дэмакратызму і мы сягоньні зьяўляемся сьведкамі ягонага ўпадку ў цэлым радзе краёў. Галоўнай прычынай гэтага зьявішча была ў вачох мас няздольнасьць дэмакратызму да саўладаньня з эканамічным крызысам. Праўду кажучы, ніводная дыктатура не патрапіла цалком апанаваць і перамагчы сяньняшнія гаспадарчыя труднасьці, але ў вачох мас заўсёды вінавата тая група, якая стаіць пры ўладзе. За ўсе няшчасьці масы вінавацяць тую форму дзяржаўнага ладу, якая ў даным часе існуе і якая вытварыла ўрад. А як формай тварэньня ўрадаў у большасьці дзяржаў быў парляментарны дэмакратызм, дык проціў гэтай формы пачынаецца рэакцыя, якая пад напорам эканамічнага крызысу і агульнага незадаваленьня даводзіць парлям. дэмакратызм да ўпадку. Характэрная рэч, што проціў парлям. дэмакратызму выступалі часам шчырыя дэмакраты, каб толькі ўратавацца ад хаосу. Польскія пэпэсы, напрыклад, падтрымалі пераварот марш. Пілсудскага (май 1926 г.), хоць ведалі аб ягоных засьцярогах да парлямантарнага дэмакратызму.

Вельмі аслабляла дэмакратызм разьбіцьцё грамадзянства на вялікі лік групаў і партыяў, якія ішлі навыперадкі ў сваім радыкалізьме і абяцанках паправы жыцьця—і ў рэзультаце гэтай паправы не далі. Масы не ар'ентаваліся ў усіх тонкіх рожніцах паасобных палітычных кірункаў і часта не маглі згадаць, на якую партыю (нумар) кінуць голас.

Трэба тут адзначыць і той важны факт, што дэмакратызм хоць і здабыў для народных мас *палітычныя* правы (роўны голас), то не здабыў *сацыяльна-эканамічных* правоў. У большасьці дзяржаў дэмакратызм для палепшаньня палажэньня шырокіх народных мас не зрабіў нічога і эканамічная няроўнасьць разам з вызыскам працоўных асталася такая, якая была і дауней, пры манархічным ладзе. Гэта быў вялікі мінус дэмакратызму.

Разам з дэмакратызмам адыходзіў назад і *парлямантарызм*. Уведзены ў Зах. Эўропе ў часе найбольшага панаваньня гаспадарчага лібэралізму, празначаны для асьвечанага і заможнага мяшчанства, ён ня мог (ці не пасьпеў) датасавацца да варункаў, выкліканых увядзеньнем агульнага галасаваньня, а галоўна — ня мог перамагчы труднага паваеннага палажэньня дзяржаў. Ягоны даўней адналіты (мяшчанскі) склад замяніўся ў стракатую мозаіку пасваранных з сабою палітычных і клясавых груп. Да палітычнага і клясавага змаганьня далучыліся яшчэ і нацыянальныя споры, асабліва ў дзяржавах нацыянальна мешаных. У рэзультаце паўстала разьбіцьцё парляманту на вялікі лік розных групаў, з якіх трудна было стварыць большасьць. Дзеля гэтага павага парлямантаў падала. Шырэйшыя кругі грамадзянства ня бралі пад увагу таго, што *парлямантарны* дэмакратызм іншым і быць ня мог, але ўсю віну за цяжкое палажэньне ўзвалілі на яго. Дзеля гэтага, хоць парлям. дэмакратызм усюды быў знакам свабоды і найшырэйшых палітычных і грамадзкіх правоў, у некаторых дзяржавах — асабліва ў тых, дзе адчувалася большая бяда — людзі пачалі імкнуцца да дыктатуры, бо думалі, што дыктатура дасьць ім хлеб і лепшае жыцьцё.

Апроч гэтага для ўсіх ёсьць ведамым фактам, што парлямантарны дэмакратызм знаходзіцца пад уплывам багатых адзінак — плютакратыі, якая на выбары выдае аграмадныя грошы, хочучы правесьці свае пляны і сваіх кандыдатаў. Прадвыбарчая агітацыя сталася найбольшым баламутцтвам народных мас і крыніцай заработку для розных агітатараў. Пры гэтым моцна выяўлялася і недэмакратычнасьць самога парл. дэмакратызму, бо некаторыя дзяржавы глядзелі на народныя масы як на рэзэрвуар галасоў, з якімі пасьля выбараў можна ня лічыцца. Апроч гэтага для нікога ня ёсьць тайнай, што пры парлям. дэмакратызьме сьпіскі кандыдатаў укладаюцца заўсёды ў вярхох, а галасуюць у нізох... Тыя, што стаяць „у вярхох", часта залежаць ад сільных гэтага сьвету. Так напр. у Японіі выбарамі і парлямантам кіруюць дзьве багатыя сем'і банкіраў, якія і вырашаюць аб палітычных дзяржавы...

Вылічылі мы ад'ёмныя бакі дэмакратызму, а цяпер разгледзім і дадатнія.

Да найбольшых дадатніх прыметаў дэмакратызму ёсьць *свабода*. Чалавек у сваім жыцьці заўсёды імкнецца да свабоды, да нейкай асабістай аўтаноміі, якая дала-б яму магчымасьць мець свой уласны куток, куды-б ніхто без яго дазволу ня мог заглянуць, ці гэта будзе ягона кватэра, ці ягона душа. Гэтакай свабоды ня можа даць ніякая дыктатура, а дае толькі *сапраўдная* дэмакрацыя. Яна дае тыя свабоды, якіх заўсёды жадае чалавек: свабоды сумленьня, думак, слова і асабістага дзеяньня ў межах права.

Сапраўдная дэмакрацыя дае права кожнай людзіне галасаваць і гэтым самым дае магчымасьць пасрэдна (пры помачы паслоў) кіраваць дзяржавай. Пры дэмакратызьме кожны чалавек ёсьць поўнапраўным грамадзянінам.

Але галоўным здабыткам дэмакратызму ёсьць магчымасьць агульнага галасаваньня або г. зв. *народнага плебісцыту*. У сапраўды дэмакратычных дзяржавах ва ўсіх важнейшых справах наладжваецца плебісцыт, каб даведацца, чаго сапраўды хоча народ. Паслы часам ня могуць вырашыць нейкай справы, або справа настолькі важная, што ня хочуць браць на сябе адказнасьці—тады справа перадаецца на агульнае галасаваньне народу. Трэба прызнаць, што маса даволі добра ар'ентуецца ў тых справах, якія яе датычаць і часам лепш разьбіраецца ў сваіх інтарэсах, чым хто небудзь другі. Дык сапраўдная дэмакрацыя ніколі ня можа адказацца ад народнага галасаваньня. Але, нажаль, такая дэмакрацыя існуе толькі ў некаторых краёх (Швайцарыя, Эстонія).

Ва ўсіх іншых, нібы дэмакратычных дзяржавах, бачым дыктатуру партыяў, за якімі стаяць фінансісты. Пры ўсіх нястачах дэмакратызму трэба аднак прызнаць, што *сапраўдны дэмакратызм—гэта вялікая рэч* і да яго ўсе людзі павінны імкнуцца. Але як і якою дарогаю? Некаторыя кажуць, што праз камунізм, іншыя — што праз фашызм. Але мы спытаемся, якім парадкам праз няволю можна дайсьці да свабоды? Ці няволя ўзгадуе чалавека да вольнага жыцьця? Гэта выглядала-б, каб нехта хацеў дайсьці да здароўя праз хваробу!

Значыць ня гэтай дарогай да поўнага і здаровага дэмакратызму.

Таксама не дае поўнай грамадзкай свабоды і поўнага дэмакратызму цяперашняя сацыяльная і маемасная няроўнасьць, якая пануе ў „дэмакратычных" дзяржавах (Англія, Францыя, Злуч. Штаты П. Амэрыкі і інш.). Каб завесьці поўны і сапраўдны дэмакратызм, трэба згладзіць цяперашнюю сацыяльную няроўнасьць, якая існуе напрыклад, паміж банкірам, фабрыкантам, абшарнікам—з аднаго боку, а служачым, работнікам, селянінам—з другога.

Выступаючы проціў гэтакага *буржуазнага* дэмакратызму, мы стаім за *дэмакратызм каапэратыўны*, які завеў-бы большую роўнасьць паміж людзьмі і не аддаваў-бы людзей у рукі плютакратыі, або фашыстоўскай ці камуністычнай дыктатуры.

Аб асновах каапэратыўнага дэмакратызму ў наступным нумары.

## Палітычная дыфэрэнцыяцыя ў польскім грамадзянстве.

Апошнім часам можна спасьцерагчы ў польскім грамадзянстве, таксама як і ў іншых грамадзянствах, вялікую палітычную дыфэрэнцыяцыю, вялікі ідэолёгічны падзел. Да 1926 году гэта дыфэрэнцыяцыя адбывалася „нармальна", паводле дэмакратычных прынцыпаў заходня-эўрапэйскіх дзяржаў. І так, была правіца, лявіца і цэнтр, якія на грунце парлямантарным то разлучаліся, то злучаліся, шукаючы патрэбнай большасьці дзеля стварэньня ўраду і правядзеньня законаў. Да правіцы належалі кансэрватысты, якія ня мелі тады абсалютна ніякіх уплываў і ўплывовая эндэцыя. Да лявіцы — камуністы, ППС і радыкальныя сялянскія партыі (Вызваленьне, Строн. Хлопске і інш.) Да цэнтру— польская хадэцыя, НПР (Народова Партыя Работніча) і Пяст (вітасоўцы). Сяньняшні правячы лагер — легіяністы ня мелі тады ў дзяржаўным жыцьці вялікага значэньня.

Пасьля маёвага перавароту (1926 г.), калі марш. Пілсудскі ўзяў усю ўладу ў свае рукі, палажэньне перамянілася. Лагер легіяністаў разам з марш. Пілсудскім даходзіць да ўлады і да іх зьездаў, якія адбываліся кожны год ў жніўні сталі прыслухоўвацца з вялікай увагай. Легіяністы злучаныя асобай і павагай Пілсудскага. ня толькі ўспаміналі „мінулыя дні", калі выступілі разам з аўстрыякамі проціў расейцаў, ня толькі пяялі „Мы перша брыгада", але і ўзялі моцна ў свае рукі ўладу ў Польшчы, а разам з уладаю і адказнасьць. У лагеры легіяністаў бадай ня існавалі ідэолёгічныя рожніцы (сацыяльныя, палітычныя, ар'ентацыйныя), а калі і былі, то іх тушавала асоба марш. Пілсудскага. А ідэолёгія Маршалка ведамая: здабыць усімі магчымымі спосабамі *незалежнасьць* для Польшчы. Для здабыцьця гэтай незалежнасьці ён карыстаўся Польскай Партыяй Сацыялістычнай, як групай, ведамай у шырокіх работніцкіх і дэмакратычных кругох усяго сьвету. Пры помачы ППС Пілсудскі навязваў зносіны з усімі сацыялістычнымі партыямі іншых народаў і праз іх пашыраў апінію аб патрэбе незалежнасьці для Польскага народу. Пасьля здабыцьця незалежнасьці Пілсудскі выступіў з ППС, заяўля-

зацыя або каапэратыва можа быць зьліквідавана і пастановы ваяводы не патрабуюць матываваньня і зараз выконываюцца (п. 16); улады могуць стаўляць стаўпы, капаць равы, рубаць лясы. Ня можна прадаваць і купляць нярухомай маемасьці без дазволу ўладаў.

Далей гаворыцца аб абавязку пропускаў, пашпартаў, мэльдункаў і г. д. Ад заходу да ўсходу сонца ня можна выходзіць з дому, хіба толькі ў кругу 100 мэтраў. Ня можна лавіць рыбы без дазволу, ня можна паліць сьвятла ў дамох, вокны якіх выходзяць на граніцу. У рэзультаце ўсе вокны ад граніцы пазатыканыя цяпер анучамі. Віл. „Słowo“ (21.VIII) у арт. „Okna zatkane szmatami“ піша, што „takie rygory nie istniały nie tylko w Rosji dawnej, do której lubimy się odwoływać dla zobrazowania niewygód wolnościowych ludności, ale prawdopobnie nie stosowane są w żadnym z cywilizowanych (bez Bolszewji) krajów europejskich“. За наступны артыкул „Słowo“ (25.VIII) было сканфіскаванае. Назаўтры яно ізноў вярнулася да гэтай тэмы і так пісала: „канфіскатамі паны не закасуеце факту, што распараджэньні аб прыгранічнай паласе робяць немагчымым нармальнае жыцьцё ў гэтай паласе. Гэтак урадаваць можна ў часе ваенных падзеяў, але ў часе мірным такога роду распараджэньні крыўдзяць насельніцтва і ёсьць бязмэтнымі“. Як прыклад заміраньня гаспадарчага жыцьця, „Слово“ падае Друю, дзе на торг прыяжджае пару фурманак.

Разважыўшы ўсё гэта, „Слово“ паўтарае сказ маршалка сэнату Прыстара, які казаў: „з такім насельніцтвам, якое маем на ўсходзе, можна жыць спакойна. Але ў інтарэсе цэласьці Дзяржавы ня трэба даводзіць гэтага насельніцтва да роспачы“. Тымболей, што прыгр. паласа пашырана на 6 клм. углыб краю.

З гэтых артыкулаў відаць, што „Слово“ хоча выступіць у ролі абаронца нашага насельніцтва, каб здабыць ягону сымпатыю. Дзякуем за добрае слова, але дарэмны труд. Выступленьні „Слова“ маюць іншую мэту: яно знаходзіцца ў вострай апазыцыі да некаторых урадавых дзейнікаў у краі і цэнтры. Не аб справы насельніцтва агулам тут ідзе, але аб тыя двары, якія апынуліся ў пагранічнай паласе і для якіх жыцьцё сталася такжа немагчымым. У іншых справах (нацыянальных, зямельных, гаспадарчых) „Слово“ у абароне нашага насельніцтва не выступае.

*Паход Пазнаншчыны на „крэсы“.* Ад нейкага часу, пад уплывам проціжыдоўскай акцыі, пачаўся паход пазнанскіх купцоў на ўсходнія землі. Да сёлетняга году гэты паход ня меў зарганізаванага і масавага характару, але пасьля разгрому жыдоўскага гандлю ў Берасьці (май сёлета), акцыя набрала сілы і арганізованнасьці. ПАТ паведамляе з Пазнані, што „Bank Zw. Sp. Zarobk.“ атрымаў далейшую помач у суме 100 тысяч зл. на фінансаваньне гэтай акцыі. Дапамогі ў форме нізка працэнтных крэдытаў выдаюцца купцом і рамесьнікам, якія выяжджаюць на ўсход, каб там закладаць польскі гандаль і рамясло. Нармальна даецца па 4 тысячы зл. на 1 прац. у год.

Хацеласяб спытацца: а дзе цяпер „Слово“, якое павінна было-б заступіцца за тутэйшае хрысьціянскае насельніцтва і выступіць з жаданьнем крэдытаў для ягонага гандлю і рамясла? На гэты раз „Слово“ маўчыць.

*Што было ў Н. Сьвержні?* Пад гэтакім загалоўкам „Kurjer Wil.“ (26.VIII) зьмяшчае даўгую справаздачу свайго карэспандэнта аб „парадках“ у Н, Сьвержні (каля Стоўпцаў). Справаздача выглядае на нейкую страшную казку, але „K. Wil.“ ручае, што гэта праўда.

Быў у Сьвержні войт З. Обрыцкі, які ў 1927 г. скінены „за нястачу гатоўкі“ у гміннай касе і засуджаны судом. Аднак у 1934 г. быў ізноў выбраны на войта і пацьверджаны стаўпецкім старастай Вежбіцкім. Обрыцкі пачаў ізноў урадаваць. Спосаб яго ўрадаваньня часам быў вельмі арыгінальны; ён лаяў інтарасантаў парасейску, пасылаў іх к... і даваў яшчэ ў задніцу. Але найболей шуму нарабіла справа з Качановічамі з в.Ператокі, якія купілі кавалак зямлі недалёка ад сялібы войта і думалі там пабудавацца. Гэта было не да ўспадобы Обрыцкаму, які спадзяваўся сам атрымаць гэты кавалак зямлі пры камасацыі. Дзеля гэтага войт не пацьвердзіў пляну будовы, а за ім і стараста. Качановічы аднак, ня гледзячы на ўсё, дом збудавалі. Але 24.XII.34 г. зьяўляецца паліцыя, арыштоўвае ўсіх пяцёх Качановічаў і садзіць іх у вастрог у Стоўпцах, скуль чатырох выпусьцілі, а адзін прасядзеў 3 месяцы. Праз 2 дні прыходзіць да Кач. войт з паліцыяй і ўласнаручна выдзірае вокны і аддае солтысу на перахаваньне. Аднак Качановічы пазабівалі вокны дошкамі і сядзяць далей. Гэта вывела войта з цярпеньня. Дня 29.XII солтыс наказвае Качановічам, што маюць быць у старастве. Тыя пайшлі. Але потым аказалася, што гэта быў подступ войта, бо Кач. ніхто ў старастве ня клікаў. Карыстаючыся з адсутнасьці мужчын, войт з эскортай прыбыў у дом Кач., жанчын і дзяцей выкінулі ў мароз з хаты, страву, што варылася, павылівалі, а сам дом развалілі... Калі вярнуліся Кач. з Стоўпцаў, засталі толькі руіны і на іх плачучую сям'ю...

Што-жа зрабіў Качановіч? Пайшоў пехатою аж у Варшаву, дабіўся неяк да віцэпрэм'ера Квяткоўскага, расказаў усю справу; віцэпрэм'ер абяцаў справу разглядзець у парадку адміністрацыйным. Характэрна, што пакрыўджаны Кач. пайшоў некалькі сот кілёмэтраў аж у Варшаву, каб там шукаць справядлівасьці, але да найбліжэйшага суду не зьвярнуўся. „Такая ўжо лёгіка гэтага народу — кажа „Kurjer Wil.“ — войт... стараста... судзьдзя“...

Падалі мы гэты факт як абразок з жыцьця нашай правінцыі. Даўней „Słowo“, а цяпер „Kurjer Wil.“ выцягваюць іх на сьвятло дзеннае. У гэтым іх заслуга.

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### Ажыўленьне дзейнасьці „Зьвязу“.

Як мы чулі, заложаны ў 1928 г. д-рам Янам Станкевічам „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз“ ажыўляе сваю дзейнасьць. Мэты „Зьвязу“ такія самыя, як і зачыненага „Бел. Іституту Гасп. і Культуры“, значыць: а) памаганьне развою земляробства ў усіх яго галінах, b) хатняга промыслу, рамясла, тэхнікі і народнага мастацтва, c) шырэньне і памаганьне развою духовай культуры, навукі і асьветы. Прасторам дзейнасьці „Зьвязу“ ёсьць уся Польшч. Пажадана было-б, каб „Зьвяз“ стаў урэшце на моцныя ногі і замяніў закрытыя беларускія арганізацыі, бо ў беларускім жыцьці адчуваецца вялікая нястача арганізаванага жыцьця. Гэтакі стан, які цяпер існуе, да нармальных залічыць ня можна.

### Новая арганізацыя.

Некалькі гадоў таму была спроба залажыць арганізацыю бел. моладзі „Будучыня“, быў напісаны статут і паданы ўладам да рэестрацыі. Але ані ваяводзкія ўлады ў Вільні, ані міністэрскія ў Варшаве гэтай арганізацыі не залегалізавалі. Цяпер, як даведваемся з „Шляху Моладзі“, „паўстала пасярод бел. моладзі ў Вільні думка ізноў старацца стварыць і залегалізаваць арганізацыю бел. моладзі. Дзеля гэтага ўжо апрацоўваецца статут, які будзе паданы адміністрацыйным уладам на зацьверджаньне“.

### Ліквідацыя.

Польскія газэты прынясьлі вестку, што пастановай віл. ваяводы з дня 20. VIII. г. г. зьліквідаваны існуючы ў Вільні Бел. Прафэсыянальны Вучыцельскі Саюз. Прычына ліквідацыі пададзена тая, што праз даўжэйшы час Саюз не праяўляў ніякай дзейнасьці.

### Спробы польска-беларускага збліжэньня.

„Шлях Моладзі“ ў апошнім нумары з жніўня г. г. прынёс у перадавіцы вестку, што ў гэтым годзе былі спробы з боку віленскіх дэмакратаў, а між іншым і з боку „Kurjera Powszechnego“, ўвайсьці ў кантакт з Беларусамі і працаваць дзеля дабра супольных польска-беларускіх адносін, але гэтую спробу нейкая таёмная рука заглушыла (?)...

Апроч гэтай весткі тамжа чытаем і другую, што зьліквідаваны сёлета ў Вільні польскі часапіс „Naprzełaj“, „каторы гуртаваў каля сябе старэйшых польскіх скаўтаў, да беларускай справы падходзіў даволі паважна і пасьля канфіскаты другога нумару, за артыкул аб Беларусах і беларускай культурнай працы, *таёмным спосабам памёр*“...

Ад сябе адзначым, што ва ўсіх гэтых інфармацыях ёсьць сапраўды нейкая *таёмнасьць*, бо раз сказана аб „таёмнай руцэ“, другі раз аб таёмнай сьмерці часапісу, які зьмясьціў артыкул аб Беларусах. Што гэта ўсё значыць? Можа-б „Шлях Моладзі“ ясьней аб усім сказаў!

А што датычыць польска-беларускага збліжэньня, дык мы ў яго ня верым з тэй простай прычыны, што пасярод польскага грамадзянства, як мы ўжо адзначалі ў прошлым годзе (№ 6 „Б. Фр.“), няма пакульшто групы, якая-б зразумела патрэбу польска-беларускага збліжэньня і з якой можна было-б гаварыць. А „насілу міл ня будзеш“ кажа прыказка і „даганяючы не нацалуешся“... нават з „Kurjeram Powszechnym“.

---

лей у яго даходзіць амаль да культу. „Нарач“ ясны гэтага доказ. Прыгледзімся напр. да герояў паэмы. Што гэта за людзі? Сацыяльна — гэта батракі ў лапцёх ды падзёртых рызманох, каторыя плачуць. З гледзішча *нацыянальнай* і нават *сацыяльнай* сьведамасьці—яны поўны нуль. Можна нават падумаць, што гэта людзі з прыгоннай пары, да таго яны прымітыўныя. Поле абсяваюць сьлязьмі, ворагам пагражаюць палыном. Якая-ж мэта іхняга змаганьня? Вярнуць папярэдні стан, калі быў хлеб і соль (калі карысталіся з вазёраў)—хоць і гэны стан быў, як гавораць палякі, „psa warty“. Калі-б гэта наступіла, яны былі-б цалком здаволены і ізноў акунуліся-б у прорву цемры, ў якой былі дагэтуль. Лёкальная балячка зрухнула іх з месца, міне—і ўсе будзе ў парадку. Ніякусенькага размаху, таптаньне на месцы паводле лёзунгу: „ня чапай мяне, а я напэўна нікога не зачаплю“. Відавочна гэты прымітывізм перашкодзіў аўтару хоць крыху зіндывідуалізаваць герояў. Дзеючыя асобы як кропля вады пахожы на сябе. Прахор, Архіп, Сымон нічым ня розьняцца ад бязыменных рыбакоў і дзівіцца трэба, нашто ім дадзены імёны. Галоўныя асобы, Грышка і Прахор пасьля ўцёку ад вартаўнікоў, у крытычную хвіліну змаганьня, не сказалі нічагусенькі сэнсоўнага, а займаюцца выключна сабой, пералічаюць свае раны, разьдзіраюць іх да касьцей, наганяюць бязьмежную тугу ды адчай на ўсіх і чытача. У канцы, ранены вартаўнікамі Прахор на дадатак неяк нязручна ўтапіўся, відавочна дзеля вялікшага трагізму, а Грышка, падарыўшы сваей каханай Таццяне шаўковую хустку, каб лепш кахала, пайшоў далей будзіць народ. Запраўды, мала каго абудзіць гэткі агітатар! Праўда, мастацкі верш Танка, сымбалічныя сказы, ўложаныя героям, крыху згладжваюць гэты малюнак, але калі перавесьці ўсё на зразумелы язык, дык малюнак пазастаецца безнадзейным, што і казаць!

Але тут прыходзе на падмогу аптымізм. Аўтар кліча ў лірычных мясцох паэмы сваіх гэрояў зьмяніць плач на песьні і сьмех, лапці на жалезнага каня і г. д. Але *як*? Гэта самае галоўнае і гэтага няма.

Як цэласьць, паэма „Нарач“ зусім ня выклікае бадзёрага настрою, а пакідае цяжкое ўражаньне. У гэтым сэнсе—гэта твор пары нашаніўскае. Аптымізму тут мала, а дзе ён і ёсьць робіць уражаньне штучнага на агульным фоне пэсымістычнага малюнку.

Танк піша амаль выключна на матывы сацыяльныя. „Нарач“ на іх збудавана, а ў „*Журавінавым цьвеце*“ амаль кожны верш мае гэты-ж матыў. Таму творчасьць Танка прадстаўляецца аднабокай. Матывы нацыянальныя знаходзяць у Танка слабы водгук, але ўсё-ж, здаецца, Танк пачынае імі цікавіцца глыбей. Можна было-б аб гэтым думаць, чытаючы быліну „Сказ пра Вяля“ (Журав. цьвет). Трэба шкадаваць, што найвышэйшыя нацыянальныя імкненьні белярус. народу мала інтарасуюць Танка. Гэта выдаецца нават часткова незразумелым, калі ўзяць пад увагу любоў паэта да сваей Краіны, Беларусі, выражаную ў шматлікіх вершах. Гэты, якраз, патрыётызм Танка не дае магчымасьці залічыць яго да пісьменьнікаў выключна пралетарскіх, як аб гэтым можна было думаць па яго першых вершах.

Гаворачы аб дадатных старонах „Нарачы“ і „Журавінавага цьвету“ трэба сказаць, што яны ёсьць доказам, ня гледзячы на недахопы, няштодзённага таленту паэта, яго мастацкае ўладаньне словам. Сымболіка Танка тут у нас яшчэ не спатыканая, хоць за гэтым гнацца надта ня варта, бо тады творчасьць робіцца інтэлігэнцкай, для шырокіх масаў мала зразумелай. Апрача таго ня ўсюды яе можна тасаваць. Непаважна напр. выглядае „монолёг“ дагараючага Прахора, калі ён сыпе сымбалямі, рэтар. фігурамі. Гэта ня жыцьцёва. Прыгожа піша Танк аб прыродзе. Малюнкі прыроды асабліва з „Нарачы“—гэта запраўдныя пэрлы ў нашай літэратуры.

Канчаючы гэтыя ўвагі трэба сказаць, што Танк яшчэ не разгарнуў свайго таленту ў поўнай меры. Трэба пажадаць, каб паэт пашырыў круг свайго заінтэрэсаваньня і зьвярнуў большую ўвагу на псыхолёгічны бок сваей творчасьці. Само сабой разумеецца, што калі Танк мае быць песьняром беларускага народу, дык найвышшыя нацыянальныя ідэалы гэтага народу павінны ў творстве паэта знайсьці належнае месца.

*М. Ш.*

---

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

# З Савецкай Беларусі.

### Ліквідацыя саўгасаў.

У пачатку жніўня с. г. ў Менску адбываўся зьезд кіраўнікоў калгасаў БССР, на якім пастаноўлена зьліквідаваць усе саўгасы ў БССР, якіх налічвалася агулам 138. Пастанова гэтая ня была, зразумела, прынята зьездам самадумам, а была фактычна прывезена з Масквы кіраўніком зямельнага аддзелу ЦК Кам. Партыі Якаўлевым. Пэўне што і Якаўлеў не рабіў нічога на сваю руку, а меў неабходныя дырэктывы з Крэмлю. Гожа тут адзначыць, якую ролю спаўнялі саўгасы ў гаспадарскім жыцьці БССР.

Ось-жа калі распачалася ў 1928 г. у Сав. Бел. прымусовая калектывізацыя, на саўгасы ўскладалі вялікія надзеі. Кам. улада, зганяючы прымусова сялянства ў калгасы прадбачыла, што апор і сабатаж з боку калгасьнікаў можа быць вялікі і можа выклікаць паважны гаспадарскі закалот у дзяржаве. З гэтай мэтай, каб ня быць надта залежнай ад калгасаў, кам. улада зьвярнула моцную ўвагу на пашырэньне і ўдасканаленьне саўгасаў. Саўгасы будаваліся з найвялікшых даўнейшых панскіх двароў і былі тыповымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі, залежнымі толькі ад дзяржавы. Гаспадарка вялася там з помаччу наймітаў, так як на фабрыках у горадзе, дзе працуюць найміты работнікі. Гэтых работнікаў можна было ў кожную хвіліну звольніць і ўзяць больш пэўных. Саўгасы мелі палёгкі ў падатках, ім аддаваліся найлепшыя землі, часам і адабраныя ад калгасьнікаў, ім даваліся мільённыя дзяржаўныя дапамогі, найлепшае кіраўніцтва і землеробскія прылады. Меліся яны быць апрача ўсяго паказальнымі гаспадаркамі і пры гэтым чыста камуністычнага тыпу, чаго ня можна было сказаць аб калгасах, дзе дапушчалася сякая гэткая собскасьць. Ня гледзячы аднак на ўсе гэтыя палёгкі саўгасы не апраўдалі ўскладаных на іх надзеяў і давалі вялізарныя дэфіцыты. Іхні камунізуючы ўплыў на калгасьнікаў быў ніякі, калгасы „не раўняліся на саўгасы", як кажуць у Сав. Беларусі Наадварот калгасьнікі адносіліся да гэтых чыста камуністычных гаспадарак яўна варожа. У гэткіх умовах саўгасаў не магчыма было падзержываць і трэба было зьліквідаваць. Але як гэта было зрабіць, калі яшчэ ў 1928/29 г. і пазней сам Сталін выхваляў гэты тып гаспадаркі і на гэтым грунце разышоўся з г. зв. правай апазыцыяй—Бухарынам і інш.? Ось-жа на ўспомненым зьезьдзе загадчыкаў калгасаў у Менску Якаўлеў падаў выхад запраўды дасьціпны. Ён абвесьціў, што саўгасы гэта твор польскіх шпіёнаў. Гэтымі шпіёнамі былі колішнія кіраўнікі БССР—Чарвякоў, Галадзед і інш. Гэткім парадкам, бароначы крэмлёўскіх ўладаў і перш наперш Сталіна, галоўных віноўнікаў тварэньня саўгасаў, адным махам былі зьліквідаваны зьненавіджаныя саўгасы і „дабіты" выкрытыя „ворагі народу". Як-бы рахуючыся з узрастаючым нацыянальным рухам беларускіх масаў, Якаўлеў заіграў і на нацыянальным пачуцьці сялянства, кажучы што гэтыя польскія шпіёны паланізавалі беларусаў, закладаючы польскія раёны між беларусамі ды прымушалі беларускіх дзяцей хадзіць у польскія школы. Звалілі затым віну за саўгасы на людзей, якія былі найлепшымі выканаўцамі камуністычнай лініі. Ці гэтаму хто паверыў — трэба сумлявацца. Бо саўгасы былі ня толькі ў Беларусі, але па ўсім абшары СССР. Але ўжо 6. VIII. с. г. ў менскай прэсе зьявілася доўгая падзяка бел. сялянства Сталіну за ліквідацыю гэтай шпіёнскай выдумкі. Цяпер у БССР пазасталіся толькі калгасы і індывідуальныя гаспадаркі, лік якіх невялікі.

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц жнівень).*

### Японска-кітайская вайна.

Увага ўсяго палітычнага сьвету цяпер зьвернена на Кітай, дзе Японія праводзіць свае пляны, аб каторых мы абшырна пісалі ў прошлым нумары „Б. Фр." Мірным спосабам да сваіх мэт у Кітаі Японія дайсьці не магла, затым пастанавіла сілаю прымусіць Кітай да прыняцьця яе варункаў.

Варункі гэтыя прадстаўлены ў гэтак званай праграме мін. Гіроты. Яны такія: 1) прымусіць цэнтральны ўрад у Нанкіне, каб прызнаў Манджурыю за асобную дзяржаву, 2) каб даў шырокую аўтаномію пяці паўночным правінцыям: Гопэй, Чагар, Шансі, Шантунг і Сюіван, 3) каб Кітай паразумеўся з Японіяй у справе супольнага змаганьня з камуністычнаю небясьпекаю. Гэтых варункаў, рэч зразумелая, Кітай прыняць ня мог. Той урад, або той маршал, які прыняўбы гэтыя японскія варункі і згадзіўся на падзел краю, меўбы проціў сябе ўвесь Кітайскі народ. Значыць, хочучы ці ня хочучы, Чанг-Кай-Шэк мусіў выступіць на вайну з Японіяй, што ён і зрабіў, хоць згары пракананы ў тым, што Кітай будзе пераможаны меншай, але лепш узброенай Японіяй. Чэсьць кітайскага ўраду і ўсяго народу не дазваляла зрачыся дабравольна Манджурыі і пяці вялікіх правінцыяў.

Дык і разгарэлася вайна. Японія атакуе ў двох пунктах; у паўночным Кітаі і ў прыморскім горадзе Шанхай. Паўночны Кітай патрэбен для Японіі, як заплечча ў будучай вайне з СССР, а Шанхай, які хоць і ляжыць далёка ад паўночнага Кітаю, але ёсьць найбольшым гандлёвым портам Кітаю (болей 3 мільёнаў жыхарства) і разам з гэтым найбольш балючым месцам ўсяе дзяржавы. Дык японцы б'юць Кітай па гэтым найболей балючым месцы, каб прымусіць да ўступак. Прыгэтым японцы спадзяюцца, што ўзяўшы разам з паўночным Кітаем і Шанхай, яны пры будучых „мірных" перагаворах з Кітаем будуць мець нешта ўступіць... Пры аканчальным торзе яны „ўступяць" Шанхай, затрымоўваючы для сябе поўночны Кітай... Цяперашняя тактыка Японіі прыпамінае гэтакуюж тактыку з 1932 г., калі яна забірала Манджурыю. Тады таксама забрала была і Шанхай, каб яго ўступіць.

Цяпер аднак кітайская армія б'ецца лепш, чым пяць гадоў таму; відаць, што падгатоўка не пайшла на марна. Але пры ўсей храбрасьці кітайцаў яны мусяць адступаць перад тэхнічна сільнейшай японскай арміяй. Страты з абедзьвух старон вялікія.

Вялікую сэнсацыю ў апошніх днях жніўня выклікала заключэньне пакту ненападаньня паміж Кітаем і Саветамі. Кітай заключыў гэты пакт, ня маючы іншага выхаду, каб бараніцца ад Японіі. Кажуць, што апроч умовы аб ненападаньні, у пакце ёсьць тайныя пункты, якія датычаць ваеннай помачы. Кажуць такжа, што савецкая помач ужо ідзе ў Кітай, а марш. Блюхер вельмі інтарасуецца стратэгічным палажэньнем кітайскай арміі. Японія з свайго боку імкнецца ўсімі сіламі, каб аддзяліць Кітай ад Саветаў, каб гэтакім парадкам спыніць савецкую помач. Узяўшы пад увагу ўсё гэтае, для нас стане зразумелым націск японскай арміі на г. Нанкаў, уздоўж вялікага кітайскага муру. Паводле апошніх вестак Нанкаў ужо ўзяты японцамі, але каб аканчальна разьдзяліць Кітай ад Саветаў, Японія мусіць узяць усю Нутраную (паўднёвую) Манголію, а да гэтага яшчэ далёка. Апроч савецкай помачы, Чанг-Кай-Шэку памагае яшчэ кітайская камуністычная армія, якая знаходзіцца ў некалькіх скамунізаваных правінцыях, ляжачых на ўсходзе Кітаю. У інтарэсе Саветаў ёсьць аслабіць Японію і дзеля гэтага вайна яе з Кітаем для іх карысна. Яны будуць заахвочваць Кітай да доўгай і заўзятай вайны. А Японія з свайго боку прадказвае востры курс адносна Кітаю.

Ці кітайскія падзеі разгарацца у сусьветны пажар — згадаць трудна. Ужо былі выпадкі, якія пры іншых абставінах маглiб выклікаць вайну (абстрел японцамі з аэраплянаў самаходу, у якім ехаў англійскі амбасадар, прычым амбасадар быў цяжка ранены; закіданьне бомбамі з кітайскіх аэраплянаў вялікага амэрыканскага карабля, на якім былі забітыя і раненыя), але ўсё гэта ў цяперашніх варунках праходзіць без ваеннай пагрозы. Але як будуць разьвівацца падзеі ў будучыне і ці яны ня віклічуць вялікай вайны — згадаць трудна.

Мы, беларусы, вялікай вайны на ўсходзе баяцца ня маем прычыны. Трэба ведаць і сказаць сабе шчырую праўду, што доля беларускага народу можа вырашыцца толькі ў выніку новай вялікай вайны.

### Гішпанскія справы.

Перад кітайскімі падзеямі гішпанскія справы зыходзяць на другі плян, але ўсёжтакі і на іх трэба зварочваць вялікую ўвагу. Трэба помніць, што калі на Усходзе вырашаюцца справы ўсяго сьвету, дык у Гішпаніі — ўсяе Эўропы.

У жніўні месяцы на гішпанскім грунце адбыліся такжа вялікія падзеі. Там быў узяты паўстанцамі значны баскійскі горад Сантандар. Як мы пісалі ў прошлым нумары „Б. Фр.", становішча Англіі можа вырашыць аб перамозе паўстанцаў. Апошнім часам Англія пад уплывам далёка-ўсходніх падзей зблізілася да Італіі, каб разьвязаць сабе рукі ў Эўропе і магчы паслаць на кітайскія воды болей ваенных караблёў. Апроч гэтага паўстанцы забралі ў Гішпаніі прамысловыя цэнтры, дзе моцна заангажаваны англійскія фінансы, восьжа англійскія фінансісты зрабілі націск на свой урад, каб паўстанцам ня чыніў перашкод... І англ. урад пайшоў ім на руку. Болей таго, англійскія фінансісты (ведама, са згоды свайго ўраду) далі ген. Франко значную грашовую пазыку. З гэтага відаць, што англійскі капітал пэўны ў перамозе паўстанцаў.

Сантандар быў узяты пры помачы трох італьянскіх дывізыяў і ў прысутнасьці 12 італьян. генэралаў! І Англія на гэта нічога! Стратэгічны плян узяцьця гораду быў апрацаваны такжа італьян. генэраламі. Паводле гэтага пляну паўстанцы зрабілі пачаткова дэманстрацыю на захад ад Сантандару, а калі Баскі скіравалі туды найлепшыя свае дызізыі, італьянцы ўдэрылі з поўдня і ў рэзультаце захапілі болей 40 тысяч у палон, а Сантандар быў узяты бяз бою. Такім парадкам уся Баскія апынулася пад уладай паўстанцаў. Геройскім Баскам, якія гэтак стойка бароняць сваей бацькаўшчыны, мы выражаем свой спогад. Наша становішча ў гішпанскай вайне такое: калі гішпанцы паміж сабою б'юцца, мы ня можам умешвацца ў іх нутраныя справы, але калі яны душаць Баскаў і Каталёнцаў і адбіраюць ад іх аўтаномію, справядлівасьць вымагае стаць на старане гэтых апошніх. Трэба прызнаць, што „людовы" фронт даў ім аўтаномію. Магчыма да часу, але ўсёжтакі даў.

Але яшчэ адзін характэрны факт.

Баскі, як ведама, на апошнім Кангрэсе нац. меншасьцяў у Лёндыне хацелі выказаць сваю крыўду і прымусіць Кангрэс заняць у іх справе справядлівае становішча. Але кангрэс ня даў ім права голасу, хоць яны зьяўляюцца сталымі сябрамі кангрэсаў ад самага пачатку іх існаваньня. Баскі, на знак пратэсту, пакінулі Кангрэс. І гэта зусім зразумела. Незразумела толькі становішча Беларускага Нац. Камітэту у Вільні, які выслаў Кангрэсу прывітаньне! Гэта быў вялікі нятакт. На такія кангрэсы, якія нават ня хочуць выслухаць крыўды паняволенага народу, ня толькі ня можна пасылаць прывітаньняў, але і прадстаўнікоў ад Беларускага народу.

# З Польшчы.

*Сялянскія выступленьні ў Галіччыне.* Ад пару тыдняў разыходзіліся глухія весьці аб грозных падзеях ў Галіччыне, выкліканых Строн. Хлопскім (вітасоўцамі). Дня 30. VIII. быў апублікаваны афіцыяльны ўрадавы камунікат аб падзеях. З гэтага камунікату справа выглядае так: на 15. VIII. (дзень абходу „cudu nad Wisłą") Стр. Люд. наладзіла многа вечаў, на каторых быў абвешчаны 10-дзённы сялянскі страйк, каб спыніць давоз прадуктаў у гарады. Страйк меў абняць усю дзяржаву, але абняў толькі некаторыя паветы ў Галіччыне. Каб дапяць сваіх мэт, банды, якія знаходзіліся пад кіраўніцтвам Стр. Людовага, пачалі тэрорам спыняць давоз прадуктаў у гарады, дзеля гэтага барыкадавалі дарогі, падпальвалі будынкі, рубалі фруктовыя дрэвы, забівалі жывёлу ў тых асоб, якія з страйкам ня былі салідарны; ўрэшце псавалі тэлеграфічную камунікацыю і разьбіралі масты. Дайшло нават да таго, што ўваружаныя банды атакавалі паліцыю, ў тым пракананьні, што паліцыі забаронена ўжываць стрельнага аружжа. Толькі тады ўчасьнікі нападаў разьбегаліся, калі праконываліся, што паліцыя мае права і абавязак ужываць стрэльбаў. У рэзультаце падчас забурэньняў было забітых 41 асоба і многа раненых. Пры канцы камунікат паведамляе, што ўсе падобныя выступленьні будуць пакараны з усей суровасьцю права.

Па ўсім абшары забурэньняў адбываюцца арышты. У некаторых паветах арыштаваны ўсе павадыры Стр. Людовага, проціў якіх пракуратура выступае з судовымі абвінавачаньнямі. Арыштаваны нават такія высокія асобы, як праф. Кот. Орган людоўцаў „Piast" (у Кракаве) зачынены. У сувязі з сялянскім страйкам быў абвешчаны партыяй ППС агульны страйк у Кракаве. Страйк трываў адзін дзень (25. VIII.) і прайшоў спакойна.

Падзеі ў Галіччыне зрабілі ўсюды вялікае ўражаньне.

*Зьезд легіяністаў.* Дня 8. VIII. адбыўся чарговы зьезд легіяністаў. Галоўныя мамэнты зьезду такія: прамова марш. Рыдз-Сьміглага, ў якой ён стаў выразна на старане акцыі палк. Коца і заявіў аб канечнасьці „жалезнаю і цьвёрдаю рукою ўдзяржаць лад, парадак і бясьпеку ў нутраным жыцьці дзяржавы"; разлам легіяністаў на левіцу і правіцу; адсутнасьць на зьезьдзе такіх выдатных легіяністаў, як ген. Соснкоўскі, ген. Бэліна- Пражмоўскі, ген. Венява-Длугошоўскі, палк. Славэк і інш. З гэтага зьезду прэса робіць далёка ідучыя высновы.

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га кастрычніка*

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.